Przegląd Wileński ... 21-6

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 25-га красавіка 1934 г.

№ 8 (33).

Год 2-гі

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобага нумару 20 гр.

## Атмасфэра ачышчаецца.

Крыху далей у гэтым самым нумару зьмяшчаем адкрытае пісьмо Прэзыдыюму Таварыства Беларускае Асьветы да грам. А, Луцкевіча, А. Трэпкі, У. Самойлы і В. Грышкевіча, заклікаючае іх стаць перад грамадзкім судом. Аднначасова Прэзыдыюм ТБА паведамляе іх, што да часу вырашэньня справы пазбаўляе іх правоў і абавязкаў сяброў Т-ва.

Сталася так дзеля таго, што ўспомненыя грамадзяне за далёка зайшлі ў мэтодах барацьбы з тымі, хто ня мог згадзіцца на ўкартаваны імі ў тайне ад усіх сяброў Т-ва плян паступаньня.

Дзякуючы таму, што гр. Р. Астроўскі быў адной з найбольш адважных адзінак, процідзеючых скрытым намерам іх і адкрыта выказваў свой нэгатыўны погляд на ўсякія хітра-замаскаваныя камбінацыі, яны павялі проці яго законспіраваную акцыю, хапаючыся за абсалютна недапушчальныя мэтады барацьбы, мэтады, зачапляючыя гонар чалавека і скіраваныя да спэцканьня яго добрага імя.

Акцыя вялася за плячамі старшыні Таварыства і іншых сяброў. Выкарысталі пры гэтым моладзь, прадстаўляючы ёй нязгодныя з праўдай тыя ці іншыя факты.

Для нашых правінцыяльных падпішчыкаў гэты абарот справы бязумоўна будзе вялікай неспадзеўкай—будзе тым громам з яснага неба, які зазвычай бывае пачаткам хуткалётнае буры. Загрыміць, часам пальле дождж, пранясецца сільны парывісты вецер, яшчэ хвіліна... і зноў засьвеціць на небе яснае сонейка, а ў прыродзе дыхне сьвежым, ачышчаным ад пылу і бруду паветрам. Так фактычна прадстаўляецца і тое, што сталася ў ясны сонечны дзень 15. IV. у Вільні ў аднэй з найбольш паважных беларускіх установаў, якой зьяўляецца ТБА.

Шкада толькі, што гэта не сталася шмат раней, але ўсё-ж лепш позна, як ніколі. Урэшце хоць часткова наша прэса пазбавіцца той, часта недапушчальнай, формы змаганьня з сваімі працаўнікамі, якую ўносіў сюды гр. А. Луцкевіч. Бойкае яго пяро было атручана ядам ненавісьці да ўсяго і ўсіх, хто толькі адважыўся інакш думаць..

Вось дзеля чаго трэба горача прывітаць „рэволюцыю" 15 красавіка 1934 г.

Нашыя працаўнікі могуць мець надзею, што праз гэта іх рады павялічацца, але мы здаволены таксама, бо-ж нашыя рады затое ачысьцяцца.

## Адкрытае пісьмо

зьмешчанае ў „Віленскім Кур'еры з дня 17.IV. г.г. № 102.

*Высока паважаны Пане Рэдактар.*

Ветліва просім зьмясьціць у Вашай паважанай часопісі наступнае адкрытае пісьмо да гр. гр. Антона Луцкевіча, Антона Нэканда-Трэпкі, Уладзіміра Самойлы і Вінцука Грышкевіча.

Паважаныя Грамадзяне. У 3 нумары з сакавіка г.г. часопісі „Новая Варта", органу Беларускай Студэнскай Корпорацыі Scorinia, зьмешчана была зацемка п. заг.: „Справа гр. Астроўскага", у якой непадпісаны аўтар стаўляе сябру Ураду Т-ва Беларускае Асьветы, гр. Радаславу Астроўскаму, закіды этычнага характару ў сувязі з фінансавымі справамі.

Ня можам дапусьціць, каб падобнага роду закіды былі зроблены студэнскаю моладзьдзю проці аднаго з перадавых дзеячоў старэйшага грамадзянства і аднначасна яе, б. дырэктару і вучыцелю, без Вашых дырэктываў і апрабаты, перадусім гр. Нэканды-Трэпкі, каторы зьяўляецца філістрам h. c. Корпорацыі Scorinia. Прабег агульнага сходу Беларускага Навуковага Т-ва, якое адбылося ў раньніх гадзінах дн. 15.IV. г. г., а таксама Вашае захаваньне на ім, пацьвердзілі нашыя дапушчэньні і аднначасна пераканалі нас, што Вашае становішча, занятае ў гэтай цэлай акцыі, было выклікана не матывам об'ектыўнага высьвятленьня істоты справы, каторая ўрэшце была Вам добра ведама, як супрацоўніка Т-ва Бел. Асьветы, але матывам дакананьня парахункаў, якія паўсталі на фоне тактычных разьбежнасьцяў, а нават і асабістым.

Уважаючы, што ў паступаньні сваім Вы паказалі сьвядомую злую волю, і што вашая

акцыя зьяўляецца вельмі шкоднай для агульнай беларускай справы, а перадусім для разьвіцьця нашага Т-ва, мы былі змушаны на паседжаньні Ураду ўвечары 15 г. м. на падставе § 32 п. і Статуту Т-ва Беларускай Асьветы пазбавіць Вас часова права ў і абавязкаў Т-ва.

Адначасна заяўляем, што ўсе дзеяньні гр. Р. Астроўскага, маючыя фінансавы характар і зьвязаныя з Т-вам Бел. Асветы, а таксама з Kl Scorinia былі намі, разам з гр. Канстанцінам Глінскім, які быў тады старшынёю Kl Scorinia, апрабаваны, як дзеяньні падыктаваныя грамадзкім дабром, з выключэньнем якіх-небудзь асабістых матываў.

Дзеля таго, што пастаўленыя гр. Р. Астроўскаму у часопісі „Новая Варта", а таксама і на сходзе Беларускага Навуковага Т-ва непраўдзіва-агідныя закіды мелі публічны характар і маглі быць шырока комэнтаваны грамадзянствам са шкодаю як для беларускае справы, так і для добрага імя гр. Р. Астроўскага, Урад Т-ва, згодна з яго просьбаю пастанавіў скіраваць гэтую справу на дарогу грамадзкага суду.

Заклікаем Вас да ўконстытуаваньня гэтага суду, зазначаючы, што чакаем на Ваш адказ да дн. 20 красавіка 1934 г.

З пашанай
Старшыня (—) Сымон Кароль
Скарбнік (—) Уладзімір Манкевіч
Сэкратар (—) Альбэрт Мюльлер

Вільня, дня 16 красавіка 1934 г.

# Адкрытае пісьмо

**да гр. гр. Антона Луцкевіча, Антона Нэкандай-Трэпкі і Уладзімера Самойлы.**

Не зважаючы на тое, што Вы фактычна ўхіліліся ад грамадзкага суда, на які я Вас выклікаў праз Прэзыдыюм ТБА дня 17 красавіка 1934 г. (Kurjer Wileński № 102 (2992) у мэтах выпрашэньня парушанай Вамі справы і на падставе пісьма Вашага, зьмешчанага ў Kurjery Wileńskim № 105 (2995) з дня 20.IV.34 г., падаю прозьвішчы маіх арбітраў, якімі будуць: 1) Гр. Адв. Аўген Казлоўскі (ul. Sierakowskiego 24), 2) Гр. Адв. Уладзімір Вішнеўскі (ul. Mickiewicza 44).

Адначасна заяўляю, што немагу аддзяліць ад гэтае справы Гр. У. Самойлы, які згодна з маім пераканаваньнем у змове з гр. гр. А. Луцкевічам, А. Нэкандай-Трэпкай і В. Грышкевічам сьвядома праводзіў усю акцыю ў мэтах скомпромітаваньня мяне перад грамадзянствам і падтрымліваў на Сходзе Навуковага Т-ва закіды, пастаўленыя гр. А. Луцкевічам і А. Трэпкай.

Вылучаю зусім з справы толькі В. Грышкевіча, як асобу мне пад'уладную, справу катарага, як зьвязаную з школай адначасна перадаў на разгляд нашае супольнае з ім вышэйшае школьнае Улады.

Радаслаў Астроўскі.
(ul. Ostrobramska 9).

Вільня дня 24 красавіка 1934 г.

# Хітрая мэханіка.

Да 1928 г. у нашым краі існавалі толькі два кірункі беларускай палітычнай і грамадзкай думкі: адзін — усходні, яркім прадстаўніком якога была Беларуская Сял.-Работн. Грамада, а другі—літвафільска-хадэцкі, згуртаваны каля „Беларускай Крыніцы". Краёвага, ці інакш кажучы кірунку, апіраючагося на польскае грамадзянства ці польскую дзяржаўнасьць, як гэта ня дзіўна, у Польшчы ня было. Зразумела, што мы зусім тут памінаем рознага роду полёнофільскія крамы, як Валэйшы, Паўлюкевіча і інш., якія сабою фактычна нічога не прадстаўлялі і ніякага значэньня ня мелі.

Аб'ектыўны дасьледчык ня можа, аднак, разглядаючы гэтае пытаньне, абмінуць моўчкі тыя імкненьні, якія рабіліся ў кірунку запоўненьня гэнае дзіўнае пустаты. Спробы такія рабіліся як з беларускага так, і Польскага боку, аднак нічога з гэтага ня вышла. Даволі ўспомніць дэклярацыю Белар. Пас. Клюбу на чале з Тарашкевічам аб падтрыманьні Ўраду Сікорскага, пасьля забойства першага прэзыдэнта Нарутовіча, а такжа закладзіны Польска-Беларускага Таварыства на чале з тым-жа Тарашкевічам, Астроўскім, Уласавым з беларускага боку і Абрамовічам, Крыжаноўскім і Вэндзягольскім з польскага.

Шукаць вінаватых у гэтым пытаньні ня будзем, а абмежваемся толькі сьцьвярджэньнем гэтых фактаў.

Пасьля працэсу Грамады, на каторым з усёй яскравасьцю выявілася роля агентаў Камуністычнае Партыі Заходняй Беларусі, якія адначасна былі і правакатарамі з боку польскае дэфэнзывы, частка грамадаўцаў, на чале з Астроўскім, адмовілася ад усякага супрацоўніцтва з КПЗБ і пачала гутаркі з польскім грамадзянствам і польскім урадам аб магчымасьці нейкага паразуменьня. Пасьля доўгіх гутарак, канфэрэнцыяў, а часта й даволі гарачых спрэчак распачата на спробу поўная рэальная праца. Йшла яна нескладна—шмат было перашкодаў, непаразуменьняў ды спрэчак і сварак паміж сваімі пры адначаснай страшэнна жорсткай акцыі з боку камуністаў, камунізукчых і Бел. Хадэцыі. Гэтыя групы чамусьці адну мерку прыкладалі да сябе, а другую да тых, хто пайшоў на супрацоніцтва з палякамі. Беларуская хадэцыя, напрыклад, уважала і ўважае, што на беларускую працу можна браць грошы толькі ад ліцьвіноў, камуністы з свайго боку ўважалі, што можна браць дапамогу на тую самую працу толькі ад Саветаў, але ні адны ні другія ніяк ня могуць згадзіцца на тое, каб узяць напр. грошы на ўтрыманьне беларускай гімназіі, ці нейкай іншай беларускай установы ад польскага ўраду. За гэта Астроўскі, Луцкевіч і ўся так зв. санацыя абліваліся і „Бел. Крыніцай" і рознымі „Працамі" найагідней шымі памыямі. Санацыя-ж зусім слушна заяўляла, што яна

уважае, што ад Польскага ўраду ня толькі можна, але на'т трэба дамагацца выасыгнаваньня пэўных сум з дзяржаўнага буджэту на беларускія культурна-асьветныя ўстановы, бо-ж дзяржаўны скарб складаецца і з мазольных грашакоў беларускіх сялян і работнікаў, ды працоўнай інтэлігэнцыі.

Так прайшло 6 гадоў. Беларуская санацыйная група сваёю ўпорнаю працаю здабыла сабе належнае месца ў беларускім грамадзкім жыцьці. Атакі працўнікі усё болей і болей слабелі, аж урэшце амаль зусім сьціхлі.

Наступае мір паміж Польшчай і Саветамі і беларускія „Комікі" апынуліся блізу што пры разьбітым карыце. Пачынаецца ўрэшце што раз то больш гаворыцца аб хуткім польска-літоўскім паразуменьні... што Беларускай хадэцыі пагражае, проста кажучы, банкруцтвам, бо ж тады Літве ня выгадна і безпатрэбна будзе даваць грошы Беларускай Хадэцыі.

Гэта добра разумеюць паны хадэкі, ды іх прыпадковыя спадарожнікі з другога боку.

Вось тут і пачынаецца хітрая мэханіка, але аб ёй напішам крыху весялей.

— — — — — — — — — — — — — — —

Укладаецца ў камічна-хадэцкім штабе плян глыбокага абходу санацыйнае арміі, рэалізаваць які пакліканы розныя спрытныя егамосьці. Рэалізацыю гэную яны праводзяць вельмі хітра, так хітра, што пралазяць яны да самага санацыйнага штабу. Толькі зоркае вока аднаго Атамана санацыйнай арміі прыкмеціла гэты хітры манэўр.

Шпікі з лагеру камунізуючых і хадэцыі сыгналізуюць сваім трывогу: трэба зьмяняць тактыку, трэба пусьціць у ход усё — абдурманьваць і абаламучваць штабных санацыйных рамантыкаў, падхлебіцца і нізка кланяцца начальніку штаба, карміць абяцанкамі палкоўніцкіх чыноў ад'ютантаў. Трэба ўрэшце завязваць сувязі з кім належыцца.

Закіпела праца па ўсім фронце.

У хуткім часе штаб акружаны. Укладаецца плян ступнёвага ахопліваньня санацыйных пазыцыяў, якія бяз бою перадаюцца штабнымі афіцэрамі працўніку. Час ад часу Начальнік Штабу яшчэ лічыць патрэбным вытлумачыць Атаману неабходнасьць такіх хітра замаскаваных стратэгічных камбінацыяў, але што раз то болей пераконваецца, што абдурманіць яго ня ўдасцца, што ўложаны з ворагамі плян ён ужо бачыць наскрозь, бо толькі моўчкі пакручвае свой рыжы вус ды ня прыходзіць, як гэта было раней, у бліндаж, скрыты ад людзкога вока —прытулішча штабу.

Зноў трэба мяняць тактыку, але трудна што-небудзь прыдумаць, бо-ж здрада заўважана і даверу няма.

Застаецца адзіны ратунак — сягнуць на галаву камандзіра.

Змовіліся. Працуюць напружана. Разстаўлены кругом сеці. Вось ужо хутка канец, бо сам начальнік штабу згадзіўся зьняць галаву свайму Атаману. Падняў меч на галаву таго, хто фактычна ў працягу 6 гадоў атульваў яго найбольшаю апекаю, здабываючы найлепшыя варункі працы для сваіх штабавых афіцэраў, робячы адзін за ўсіх нязвычайна цяжкую работу, кідаючыся часта адзін (бо-ж штаб з пераляку хаваўся ў бліндаж) у атаку.

Але недарма-ж кажа прыказка, што падняўшы меч ад мяча і згіне. Так сталася й тут. Адным махам ён выбіў меч з рукі свайго начальніка-здрадніка і бахнуў па чэрапу.

Бой яшчэ трывае. У другім нумары падамо заканчэньне.

**А. Куприн.**

# ДЭМІ́Р—КАЯ́.

*Усходняя легенда (пераклад В. Астроўскага).*

Вецер сьціх. Быць можа, што сёньня нам прыйдзецца начаваць на моры. Да берагу 30 вёрст. Дзьвёхмаштавая лайба вяла калыхацца з боку на бок. Мокрыя парусы абвісьлі.

Белая ймгла шчыльна атуліла лайбу. Ня відаць ні зораў, ні неба, ні мора, ні ночы. Вагня мы не запальваем.

Сэід-Аблы, стары, брудны і босы капітан лайбы, ціхім, важным і спакойным голасам расказвае гісторыю з мінулага, ў каторую я веру ад усяго сэрца. Веру таму, што ноч так дзіўна маўкліва, таму што пад намі сьпіць нявідзімае мора, і мы, атуленыя ймглою, паволі плывём у белых густых хмарах.

—·—

Звалі яго Дэмір-Кая. Па нашаму гэта значыць — Жалезная Скала. Так называлі яго за тое, што гэты чалавек ня ведаў ні літасьці, ні сораму, ні страху.

Ен разбойнічаў з сваею шайкаю ў ваколіцы Стамбула і ў багаслаўленай Фэссаліі, і ў гарыстай Макэдоніі і на ўрадлівых баўгарскіх сьтэпах. Дзевяцьдзесят дзевяць чалавек згінула ад яго рукі, і ў ліку тым былі жанчыны, старыя і дзеці.

Але вось аднойчы ў горах акружыла яго вялікае войска падзішаха — каб прадоўжыў Аллах дні яго!—Тры дні адбіваўся Дэмір-Кая, быццам воўк ад ганьні сабак. Раніцаю на чацьверты дзень ён прарваўся, але—адзін. Частка ягоных таварышоў згінула падчас заўзятае пагоні, рэшта-ж прыняліі сьмерць ад рукі ката ў Стамбуле на круглым пагосьце.

Паранены, акрываўлены ляжаў Дэмір-Кая пры вагні ў няпрыступным горным лёху, дзе яго прытулілі дзікія горныя пастухі. І вось сярод ночы зьявіўся да яго сьветлы ангел з вогненым кінжалам. Пазнаў Дэмір-Кая зьвястуна сьмерці, пасланца неба Азраіла, і кажа:

— Хай будзе воля Аллаха! Я гатоў.

# Гаспадарчы аддзел.

## Як і што сеяць.

Цяпер якраз пара падумаць, якое сеяць варыва, каб мець забяспечанае цэлае лета і зіму. На вёсцы пераважна сеюць: буракі, моркву, рэдзьку, цыбулю, бручку і капусту, а пятрушкі, якая служыць прыправай амаль да кожнай стравы, таксама, як цыбуля ня сеюць.

Пятрушку павінна сеяць кожная гаспадыня, бо пятрушка прыдае кожнай страве пах і смак і хоць паложым меньш сала ці мяса але ўкінем пятрушкі, цыбулі і ўсялякіх прыправаў страва выдаецца смачнейшай. Пятрушка не займае шмат мейсца, бо можна яе сеяць радочкамі паміж цыбуляй. Цыбуля дасьпявае хутчэй, а пятрушка расьце да самых замаразкаў, а нават можа зімаваць, калі яе крыху прыкрыць лісьцём ці саломаю з восені. Лісьцё і корань пятрушкі ўжываюць як прыправу. Насеньне пятрушкі ў такой-жа цане як і морквы, а можна выгадаваць самім з высадак, як буракі, моркву і іншае варыва.

Варта зьвярнуць увагу і на гарбузы з якіх варыцца смачная каша, а акром таго дадаюцца да ягадных кашак (павідал — мармалады) на зіму. Есьць ведама, што гарбузы сеюцца ў такім месцы, каб не заглушалі сваім вялікім лісьцём іншага варыва.

Робячы грады пад варыва трэба зьвярнуць увагу ў якім месцы распаложаны агарод, калі грунт мокры то трэба рабіць разоркі глыбейшыя, калі сухі — плытчэйшыя, хопіць толькі на месцы разоркі пратаптаць сьцежачку.

Кожнае варыва трэба сеяць у радкі, што аблягчае полівэ. Радкі трэба рабіць упоперак градаў 25-30 цм. радок ад радка (больш меньш на паўтары пядзі).

Насеньне калі няма сваёго — трэба купляць у салідных фірмах яно там не даражэй, а гатункі будуць лепшыя.

Вось некаторыя больш вядомыя гатунк насеньняў, якія знаходзяцца ў прадажы пад; наступнымі назовамі:

Пятрушка „Bardowicka długa“.
Буракі „Ćwikłowe egipskie“.
Гарох „Telefon“.
Хвасоля „Bomba“ (садзіцца бяз тычкі)
Морква „Nantejska“.
Гуркі: „Wileńskie wczesne“, „Monastyrskie“ і „Przybyszewskie“.
Рэдзька: „Majowa“ 6-cio tygodniowa, „Zimowa czarna“ і „Zimowa biała.
Салата „Kamienna głowa wczesna“.
Гарбузы „Dynia melonowa olbrzymia“.
Цыбуля: „Zimowa siedmiolatka“ зімуе ў грунцэ некалькі гадоў і ўжываецца толькі зелень (быльлё), і „Дымка“.

## Як садзіць квахтуху.

Усім ведама што цяпер як і раней, кураводзтва, ў малых ці большых гаспадарках, адыгрывае не апошнюю ролю.

Соль, газу, мыла, а часта і дробны падатак у гаспадарцы аплачывала курыца.

Прыймаючы пад увагу, што у нас кураводзтва засталося ў прымітыўным стане а на'т занепадзе. Хацелася-б падзяліцца—тымі практычнымі ўвагамі, якія шматгадовым гадаваньнем курэй здабыла.

Калі ўжо квахтуха ёсьць пэўная, то трэба выбраць яек (пад сярэднюю курыцу 11-15). Яйкі павінны быць ня тлустыя г. з. каб лупіна не прасьвечвалася і была гладкая, а пятка ў яйку адстаўшая. Яйкі да вы-

---

Але ангел адказаў:

— Не, Дэмір-Кая, час твой яшчэ ня прыйшоў. Слухай волю Божую. Калі ты ўстанеш з гэтых палацаў сьмерці, дык пайдзі, выкапай з зямлі ўсё сваё багацьце і замяні яго на золата. Пасьля ты пойдзеш проста на ўсход і будзеш ісьці да таго часу, пакуль ня дойдзеш да месца, дзе сходзіцца сем дарог. Там пабудуеш ты дом з выгоднымі пакоямі, з шырокімі лавамі, з чыстаю вадою ў фантанах для ўмываньня, з ежаю ды піцьцём для падарожнікаў, з араматнай каваю і пахучым наргіле для змучаных. Заві да сябе ўсіх, хто едзе ці йдзе міма, і служы ім, як апошні нявольнік. Хай твой дом—будзе іх домам, тваё золата — іх золатам, твая праца — іх адпачынкам. І знай, што настане час, калі Аллах забудзе твае цяжк'я грахі і даруе табе кроў дзяцей Яго.

Але Дэмір-Кая спытаў:

— Які ж знак мне дасьць Гасподь, што грахі мае дараваны?

І ангел адказаў:

— З вагня, што тлее каля цябе, вазьмі абгарэлую галавешку, пакрытую попелам, і пасадзі ў зямлю. І вось калі гэнае амяртвелае дрэва пакрыецца карою, пусьціць расткі і зацьвіце,—дык знай, — настаў час твайго ачышчэньня.

Прайшло ад таго часу дваццаць гадоў. Па ўсёй краіне падзішаха — каб прадоўжыў Аллах дні яго! — йшла слава аб заездным доме пры сямі дарогах на шляху з Джэдды ў Смірну. Бедны выходзіць адтуль з рупіямі*) ў падарожнай кайстры, галодны-накормленым, змучаны-бодрым, ранены-вылечаным.

Дваццаць гадоў, дваццаць доўгіх гадоў глядзеў кожны вечар Дэмір-Кая на цудоўны абрубак дрэва, ўкопаны на двары, але ён заставаўся чорным і мёртвым. Патускнелі ў Дэмір-Кая арліныя вочы, сагнуўся ягоны магутны стан і валасы на галаве яго сталі белымі, як крыльлі ангела.

Але вось аднойчы раніцою пачуў ён конскі топат і выбегшы на дарогу, пабачыў ездака, які імчаўся на ўзмыленым кані.

*) рупія—ўсходняя грашовая манэта.

седкі павінны мець нармальны выгляд бяз уоякіх адзнакаў ненармальнасьці.

Гняздо найлепей рабіць на зямлі, а не ў запечках ці прывалках каля печы, дзеля таго, што ад зямлі вогкасьць, а зьверху цяпло, дзеець добра на выседжваньне куранят.

У гняздо на ніз трэба палажыць пацярухі, на верх сена, ўсё гэта туга стаптаць і паставіць у спакойным месцы на зямлі. Калі прыходзіцца садзіць на памосьце, ці на іншым сухім месцы, то час ад часу, праз 3-4 дні, трэба намачыўшы якую колечы шкумаціну ў цёплай вадзе, злажыўшы ў некалькі столак падкладаць пад гняздо.

Каб сцьвердзіць гэты доказ прыгледзімся да квахтухі.

Бываюць выпадкі што курыца ўкрадкам зробіць сабе гняздо пад паветкай, ці іншым мейсцы і байстручкі выкацяцца з яёк як жалудкі.

Калі пройдзе 10 дзён як села курыца, трэба перагледзіць яйкі на сонцы і адкінуць тыя, якія часам бываюць не прынятымі.

Квахтуху найлепей карміць мочанымі зярнятамі і выпушчаць на вольнае паветра хаця на 10 мінут, яйкі ў гэты час адсутнасьці курыцы, накрыць нагрэтым якім лахманом, каб не прастывалі.

Пасьля, калі ўжо пачнуць выходзіць кураняты, то часам трэба ім у гэтым памагаць разьдзіраючы лупіну яйка. Хуткі выхад куранят з яйка адбіваецца вельмі дадатна на носнасьці курэй, тады калі доўга мучацца пры выхадзе, бываюць слабыя, ня носныя і часта прападаюць.

С. Баначыха.

(в. Нізяны, Ізабэлінскай вол. Ваўкавыскага п.).

**Ад рэдакцыі.** Здараецца аднак, што ў той час, як трэба садзіць, куры ня квохчуць і няма квахтухі, тагды лёгка можа выручыць гаспадыню з клопату індычка. Кураводы справедліва называюць індычку, „жывым інкубатарам". Індычку значна лягчэй змусіць высядзець яйкі, чым курыцу. Асабліва гэта лёгка зрабіць у той час, калі індычка нясецца. Трэба яе пасадзіць у гняздо і накрыць рэшатам. Праз некалькі гадзін індычку зьняць з гнязда, накарміць, напаіць, ізноў пасадзіць у гняздо, накрыўшы зьверху. Так рабіць у працягу 2 3 дзён, пасьля якіх індычка так расьседзіцца, што ўжо сьмела можна пад яе класьці курыныя яйкі.

Пад індычку можна падлажыць да 30 курыных яек.

## Змагаймася са шкоднікамі саду.

Кожны наш гаспадар павінен ужо ведаць, што ўрадлівыя сады добра гноіцца і адпаведна даглядаюцца. Пагнаіць і ўспульхніць зямлю пад дрэвам для гаспадара ня такая ўжо цяжкая рэч і не забірае шмат часу, затое барацьба з рознымі шкоднікамі, хваробамі пладовых дрэваў ёсьць шмат складнейшай і гаспадар наш у гэтым кірунку амаль што нічога ня робіць, ня глядзячы на тое, што шкоднікаў гэтых шмат, і што дзякуючы ім ураджаі ў вясковых садох абніжаюцца да немагчымасьці.

Вясною, як толькі прыгрэе сонейка пачнуць распушчацца пупішкі на дрэвах, адначасна абуджаюцца і розныя шкоднікі страшна множацца і вядуць сваю руйнуючую работу ў садзе. Для барацьбы з гэтымі шкоднікамі трэба прыступаць загадзя, калі яшчэ не распусьціліся дрэвы. Перш за ўсё у садку трэба сабраць усё сухое лісьцё, галінкі і т. п. і спаліць. Апрача таго трэба паадразаць і спаліць усе галінкі, на якіх налеплены яечкі шаўкапрада персьценевіка (зязюліны

---

Кінуўся да яго Дэмір-Кая, схапіў каня за цуглі і затрымаў ездака.

— О, брат мой, зайдзі ў дом да мяне. Асьвяжы твар свой вадою, падмацуй сябе ежай і піцьцём, асаладзі вусны твае салодкім пахам кальяна.

Але падарожнік крыкнуў у злосьці:

— Пусьці мяне, стары! Пусьці!

І плюнуў ён у твар Дэмір-Кая і выцяў яго рукаяткаю біча па галаве і паляцеў далей.

Закіпела ў Дэмір-Кая гордая разбойніцкая кроў. Падняў ён з зямлі цяжкі камень і кінуў яго ўслед таму, хто так скрыўдзіў яго, і разьбіў яму чэрап. Пахіснуўся ездок на сядле, схапіўся за галаву і зваліўся на дарожны пыл.

З жахам ў сэрцы падбег да яго Дэмір-Кая і сказаў сумна:

— Брат мой, я забіў цябе.

Але ўміраючы адказаў:

— Ня ты забіў мяне, а рука Аллаха. Слухай. Паша нашага вілайэта-жорсткі, прагавіты, несправядлівы чалавек. Мае прыяцелі ўтварылі проціў яго змову. Але я пакваліўся на вялікую грашовую нагароду. Я хацеў іх здрадзіць. І вось, калі я сьпяшаўся з мам даносам, мяне затрымаў камень, кінены табою. Гэтак хоча Бог. Прашчай.

Прыбіты горам, вярнуўся Дэмір Кая на свой панадворак. Драбіна дабрадзейнасьці і пакаяньня, па якой ён так цярпяліва падымаўся ўверх цэлых дваццаць гадоў, заламалася пад ім і рынула ў адзін кароткі міг летняе раніцы.

З сумам паглядзеў ён туды, дзе зрок яго прывык штодзень затрымлівацца на чорнай абгарэлай галавешцы. І раптам-о, цуд!—ён бачыць, што на яго вачох амяртвелае дрэва пускае расткі, пакрываецца лістамі, адзеваецца пахучаю зеленьню і расьцьвітае далікатнымі жоўтымі краскамі.

Тады ўпаў Дэмір-Кая на калені і радасна заплакаў. Бо ён зразумеў, што вялікі й ўсялітасьцівы Аллах у нявыказанай мудрасьці сваёй дараваў яму дзевяцьдзесят дзевяць загубленых душ за сьмерць аднаго здрадніка.

—·—

сьлёзы). Вялікую ролю ў барацьбе са шкоднікамі, якія ня лётаюць, а поўзаюць, могуць адыграць ліпкія пасы, якімі абвязваецца навокала пень. Для гэтых мэтаў маюцца спэцыяльныя пасы ў прадажы, але ня горшы ліпкі пас можна зрабіць самому, намазаўшы грубы папер звычайнаю смалою — жывіцаю. Для старэйшых дрэваў не патрэбна і паперу, — тут проста пень абмазваецца смалою або нейкім іншым ліпкім матэрыялам. Барацьба з жучкамі—цьветаедамі (даўганосікамі) часта вядзецца, і то з добрым пасьпехам, наступным спосабам: раніцаю каля 10 гадзіны расьцілаюцца посьцілкі пад дрэвам, а само дрэва моцна трасецца; жучкі на дрэве ня могуць утрымацца і падаюць на посьцілкі, з якіх іх можна сабраць і зьнішчыць. Страсаньне трэба паўтарыць некалькі разоў.

Усе вышэйпададзеныя спосабы вельмі простыя і лёгкія для выкананьня, але не заўсёды выстарчаючыя. Для больш пэўнай і грунтоўнай барацьбы са шкоднікамі саду маюцца цяпер спэцыяльныя хімічныя сродкі, якія шырака застасоўваюцца ў прамысловых садох.

Да такіх хімічных сродкаў у першую чаргу трэба аднесьці бардоскую жыжку, якая ўжываецца пераважна для барацьбы з рознымі хваробамі, асабліва з паршою ці расою. Бардоскаю жыжкаю густа скрапляюцца дрэвы першы раз перад тым, як распусьцяцца пупішкі, другі раз зараз-жа, як разаўюцца лісьці, — але ніколі ня можна дрэва скрапляць, як яно цьвіце, — трэці раз, — калі дрэва адцьвіце і завяжуцца плады; часта скрапляюць яшчэ і чацьвёрты раз, у другой палове чэрвеня. Скрапляюцца дрэвы спэцыяльнымі апаратамі, т. зв. апрысківачамі.

Бардоская жыжка (1 працантовы яе рошчын) прыгатаўляецца наступным спосабам: бярэцца 3 кілёграмы сярчану медзі (медны купарос) і 2 кг. сьвежа згашанае вапны на 300 літраў вады. Рашчыны сярчану медзі і вапны робяцца асобна і потым ужо мяшаюцца ліцьцём рашчыну вапны ў рашчыну сярчану медзі. Распушчаюцца абедзьве цечы ў дзеравяных пасудах. Вапны шкадаваць ня трэба, большая колькасьць яе не зашкодзіць, затое знаходзячыся не знэўтралізаваны вапнам сярчан медзі вельмі шкодны, дзеля таго, дзеля пэўнасьці, вапны для рашчыну бяруць столькі, колькі і сярчану медзі.

Для барацьбы з шкоднікамі-казулькамі найчасьцей ужываецца парыская зелень, якою таксама апрысківаюцца дрэвы. Парыская зелень ужываецца як супроць пладажоркі, спрычыняючыся да чарвівасьці пладоў, так і супроць многіх іншых казулек.

Для нішчэньня гусеніц апрысківаць парыскай зеленьню трэба раней, калі яны яшчэ малыя.

Рошчын парыскай зелені прыгатаўляецца наступным спосабам: на 100 літраў вады 80—100 грамаў парыскай зелені і каля 400 гр. вапны і ўсё гэта добра разьмешаць.

З. К.

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Скандальны Гадавы Сход Беларускага Навуковага Т-ва дня 15.IV.1934.** Сёлеташні гадавы Сход Беларускага Навуковага Т-ва быў, як гэта ня дзіўна, скліканы выключна для парахункаў з адным сябрам Ураду Т-ва Р. Астроўскім, які меў адвагу не згадзіцца на праводжаньне ў іншых установах хітрамудрых пляноў Старшыні Навуковага Т-ва пана Антона Луцкевіча.

На старшыню Сходу быў запрапанаваны гр. Трэпкай вядомы „навуковец" пан Сталыга. На сход былі ўведзены з правам рашучага голасу без пастановы Ураду Т-ва не сябры Т-ва Д-р Грабінскі і гр. Малевіч. Пасьля кароценькай справаздачы п. Луцкевіча прыступлена да дзьвёх вельмі „важных" „навуковых" справаў: нязгоднае з праўдай зацемкі „Новае Варты" аб гр. Р. Астроўскім і перамываньні бруднага парця „прафэсара" Вінцука Грышкевіча.

Часьць прысутных сяброў—не навукоўцаў у лічбе 7 асобаў ніяк не могучы ўцяміць гэтых „навуковых" рэчаў з пратэстам пакінула сход, а тыя, што засталіся у працягу 10 мінут пасьля выхаду ўспомненых сяброў, выбралі без выбараў 2-х сяброў Ураду—Трэпку і Д-ра Грабінскага падвесілі часова да выясьненьня (чаго?) гр. Р. Астроўскага.

Сьмешна й сумна адначасна. Вось часы вось звычаі!

## На правінцыі.

**Што наму да смаку.** в. Дуброўшчына, Ракаўскае вол., Маладэчанскага пав., У нашай вёсцы паявілася часопісь „Беларуская газэта", якая нікому не спадабалася. Сяляне прынялі яе, як тую вясковую бабу, каторая толькі ходзіць і шукае нагоду, каб з кім палаяцца, бо бяз гэтага жыць ня можа. Дзіўным для нас зьяўляецца пратэст, падпісаны некаторымі сялянамі ў справе нейкага чужынца Дзімітрыева, які знаходзіўся пад судом у Нямеччыне, у зьвязку з падпаленьнем Рэйхстагу.

Можа гэтыя пратэстанты думаюць, што як гэты „вялікі чалавек" выйдзе на волю, то паможа ім зажыць на „шырокую ногу".

Шкада тых сялян, якія зложылі пад пратэстам сваі падпісы і тых, каторыя такімі пратэстамі займаюцца. Лепш падумалі-б яны аб беларускіх барацьбітах, каторых чакае вялікая небясьпека ў БССР.

Праўдзівы.

**Моладзь ня сьпіць.** (в. Абітацыя, Будслаўскае вол., Вялейскага пав.). На другі дзень

вялікодных сьвятаў моладзь в. Абітацыя, згуртаваная ў польскім „Гуртку Вясковае Моладзі“, задзіла беларускі спэктакль вечарыну, у праграму каторага ўвайшла п'еса Кепуракіса — „Амэрыка ў лазьні“ і скокі. Вечарына ўдалася зусім добра і вясковыя артысты паказалі сябе як найлепей. Асабліва добра згулялі свае ролі Адв. Красоўскі і Лубнеўшчынка. Трэба таксама падкрэсьліць стойкасьць і вытрывалась[ць] абытацкае моладзі каторая хоць і належыць да польскага гуртка, аднак займаецца перадусім беларускай працай.

Ня гледзячы на злоснае карканьне абітацкага вучыцеля і некаторых яго „памочнікаў“, што на беларускую вечарыну ніхто ня пойдзе, народу с бралася шмат і вечарына мела пасьпех. Дык няхай гэткіх вечарын будзе што раз болей!

Будслаўскі.

## Жаноцкі Інтэрнат Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын у Вільні.

Інтэрнат для хлапцоў пры Віленскай Беларускай Гімназіі вядзе сваё існаваньне прыблізна з дзесятак гадоў, а інтэрнату для дзяўчат, які знаходзіўся-бы пад апекай беларусаў ня было. Гэты недахоп адчувала ўсё сьвядомае беларускае грамадзянства. Яно ясна здавала сабе справу, што дзяўчаты нашы, прыяжджаючы аж у Вільню, для здабыцьця асьветы ў сваёй роднай мове (на ўвесь беларускі народ, які, нават паводле ўрадовай статыстыкі, складаецца з двух мільёнаў, ёсьць толькі 2 гімназіі — ў Вільні і Наваградку), пападалі пад чужацкія ўплывы, ды чужых людзей, якія толькі выкарыстывалі іх для сваіх уласных мэтаў. Адны з дзяўчатак знаходзілі прыпынак на прыватных кватэрах, дзе гаспадыні глядзелі, каб атрымаць плату за памешканьне і ўслугі, а да іншых праяваў жыцьця дзяўчат ім ня было справы. Другія-ж пападалі ў інтэрнат мэтадыстаў, дзе змушаны былі ламаць і душу, і веру, і мову, а за гэта мелі цёмны кут і страву.

Нашы дзяўчаткі змушаны былі акуратна прысутнічаць на ўсіх мэтадыстычных набажэнствах, а нават прыймаць актыўны удзел у іх, ламаючы гэткім чынам веру сваіх дзядоў і прадзедаў. Кіраўнікі і духаўнікі-мэтадысты, якія прыехалі з далёкай Амэрыкі, ці Нямеччыны толькі тут пачалі вучыцца нашае беларускае мовы, перакручываючы словы, калечылі яе. Нашая гэтак прыгожая, гэтак мілая нашаму сэрцу мова, гэты наш скарб, які дастаўся нам ў спадчыне па дзядох і прадзядах, якога ня здолеў зрабаваць нам ніводзін з чужынцаў, панаваўшых над нашым народам, стараўшыхся ўсімі сіламі збрыдзець яе нам, называючы нашую мову то мужыцкаю, то хамскаю, праз калечаньне духоўнікамі-мэтадыстамі і іх кіраўнікамі была выстаўлена на зьдзек і сьмех.

Дзеці нашы змушаны былі, сьцісну́ўшы сэрца, слухаць іхнюю мову, сапраўды сьмешную ламаніну, бо ня маючы свайго інтэрнату, іншага выхаду ня мелі. І вось, толькі ў мінулым школьным годзе Аб'яднаньню Беларускіх Жанчын удалася скінуць той цяжкі камень, які ляжаў на сэрцы ўсяго сьвядомага беларускага грамадзянства, г. зн. адчыніць свой інтэрнат са сваім кіраўніцтвам і пад сваёй апекай.

Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын — гэта адна з наймалодшых беларускіх арганізацыяў (існуе толькі тры год), ня мела ані грошаў, ані памешканьня, каб магла даць прыпынак хоць частцы нашых дзяўчат. І вось тут беларускія жанчыны выказалі сваю руплівасьць і працаздольнасьць, прылажыўшы ўсе надлюдзкія высілкі, заапекаваліся адразу аж 16 дзяўчатамі. Памешканьне і ўсё неабходнае дала старшыня А, Б, Ж. Грам-ка А. Астроўская, якая таксама і ўзяла на сябе бясплатна кіраўніцтва. І такім чынам інтэрнат для вучаніц Біл. Б. Г. пачаў сваё існаваньне ў Віленскай Калёніі (10 мінут язды ад Вільні). Найбольшая, бо гэта была першая, грашовая дапамога, у суме 50 злот.. з якой прышоў нам Высокапаважаны Уладыка арх. Хвядос, дала магчымасьць здабыць неабходныя рэчы. Далей ўжо некаторыя з сьвяшчэньнікаў, бачучы прыклад з гары, аблажылі сябе па 1 зл. або 50 гр. ў месяц якія прысылалі праз сваю кансысторыю. Праз нейкі час прыйшло з дапамогаю і Віленскае Куратарыюм, вызначаючы стыпэндыі.

І так беларускія дзяўчаты маюць ужо сваю ўласную хату — свой уласны інтэрнат, які ўжо праіснаваў 1932—33 школьны год.

(Працяг будзе).

## Палітычная хроніка.

**Прыезд францускага міністра Барту ў Варшаву.** Заключэньне праз Польшчу дагавору аб ненападаньні з Саветамі і Нямеччынай прычынілася да ўзмацаваньня і паднясеньня значэньня Польшчы на міжнародным грунце. У гэтым збліжэньні, палітычныя францускія кругі дасьледжваюць небясьпеку для заграпічнай палітыкі Францыі, якая апошнімі часамі, ў сувязі з афэрай Ставіскага, губляе ўплывы ў Эўропе. У сувязі з гэтым францускі міністр заграпічных спраў Барту гэтымі днямі прыехаў у Варшаву, каб абгаварыць з польскім міністрам Бэкам вытварыўшуюся сытуацыю і ўзмацаваць польска-францускі саюз.

У першым дні свайго прыезду, міністр Барту будзе прыняты ў Бэльвэдэры Маршалкам Пілсудскім.

**Адстаўка ўраду.** Старшыня ўраду Енджэевіч яшчэ перад Вялікаднем падаўся ў дымісію, але гэтая дымісія ўсё яшчэ не спаўняецца. Газэты падаюць, што зьмена Ураду адбудзецца пасьля візыты францускага міністра Барту.

**Польска-савецка - нямецкая** міжнародная канфэрэнцыя ў справе зьмены тарыфы на чугунках адбудзецца 25 г. м. ў Вільні.

**Таварыства гандлю Польшчы з Саветамі.** У Варшаве распачаліся перагаворы гаспадарчых груп у справе ўтварэньня новых гандлёвых таварыстваў, якія замянілі-б ліквідаваны „Савпольторг“ і „Польрос“. Ёсьць праект залажэньня таварыства компэнсацыйнага гандлю паміж Польшчай і СССР. Дэцызыя ураду ў справе крэдытаваньня гандлю з Саветамі праз дзяржаўныя банкі, як і прызнаньня контынгентаў на ўвоз тавараў савецкіх, яшчэ не запала.

**Асушка Палесься.** Польскі ўрад пастанавіў прыступіць да асушкі Палесься. У гэтай справе Урад апрацаваў ужо і закон, які пераданы Прэзыдэнту дзеля зацьверджаньня і выданьня дэкрэту.

**Каморнікі павінны быць ветлівымі.** Міністэрства справядлівасьці выдала спэцыяльны цыркуляр, ў якім наказывае ўсім каморнікам быць ветлівымі і тактоўнымі, пры спаўняньні сваіх абавязкаў, каб ня ўводзіць раздражненьня сярод грамадзянства. Цыркуляр прадбачыць для іх цэлы рад кар дысцыплінарных, лучна з пазбаўленьнем права займаць становішча каморніка.

**Разлом у Эндэцыі.** У гэтым тыдні, ў польскай партыі „Stronnictwo Narodowe“ (эндэцыі) наступіў разлом. У Варшаве з эндэцыі паўстала новая партыя „Obóz narodowo-radykalny“, а ў Пазнані—„Stronnictwo Wielkiej Polski“.

**Помач для галадаючых у Віленшчыне.** Эканамічны камітэт міністраў выасыгнаваў для галадаючых у Віленшчыне 150 000 зл. сеўнай запамогі.

— —

**Савецкі дагавор аб ненападаньні з Латвіяй, Эстоніяй і Літвой.** Год таму назад Саветы заключылі дагавор з Латвіяй, Эстоніяй і Літвой аб ненападаньні. Цяпер гэны дагавор прадоўжаны на 10 гадоў. Дагавор гэты пацьвярджае, што бальшавікі вельмі стараюцца забясьпечыцца з захаду, бо на ўсходзе для іх пагроза ўсьцяж расьце.

**Палітычны замах у Румыніі.** У Бухарэшце паліцыя дасачыла вялікі палітычны загавор вайсковых афіцэраў супроць караля і яго сям'і. Загаворшчыкі меліся ўзарваць катэдру на першы дзень Вялікадня, калі там маліўся кароль з сям'ёй. Суд над загаворшчыкамі мае хутка адбыцца.

**Узноў аб разбраеньні.** У Жэнэве ізноў началася гутарка аб разбраеньні. Канфэрэнцыя Разбраеньня пачынае нанова арганізаваць нарады. Ужо Прэзыдыюм канфэрэнцыі нараджаецца і працуе.

**Чаму Троцкі павінен пакінуць Францыю.** 16 красавіка г. г. зьявіліся ў прэсе сэнсацыйныя весткі аб выкрыцьці недалёка Парыжа ў Барбусоне памешканьня былага савецкага камісара Льва Троцкага. Пражываў ён у вільлі Кэр-Мінік, на што меў дазвол францускага міністэрства ўнутраных спраў, выданы ў сьнежні 1933 г. пад варункам, што паўстрымаецца ад усялякай палітычнай дзейнасьці. Месца пражываньня Троцкага было так законспіравана, што нават жыхары Барбусона ня ведалі аб гэтым. Як выясьнене былы камісар, баяўся ён помсты белагвардзістаў.

Усё было-б добра, каб не знойдзеныя брашуры, ў якіх Троцкі інгэруе ў палітычную ацэнку ўнутраных падзеяў Францыі. Поўафіцыяльна выясьняецца, што фактычна прычыніўся да таго, што францускі ўрад пазбавіў Троцкага права далейшага прабываньня ў Францыі, аб чым яго ўжо паведаміў і вызначыў тэрмін дзеля выбару краю, ў якім мае замер пасяліцца.

Паводле нясьцверджаных вестак Троцкі быццам, пакінуўшы Францыю, паехаў у Гішпанію.

Згодна з інформацыямі аг. Гаваса Троцкі яшчэ не атрымаў паведамленьня аб наказе апушчэньня межаў Францыі. Аднак у вільлі Кар-Мінік робяцца на спех прыгатаваньні да выезду. Троцкі са сваімі сэкрэтарамі парадкуе акты і кніжкі. Былы савецкі камісар прыгнечаны пастановаю францускага ўраду.

# Усячына.

### Найстаршая вучаніца на сьвеце.

Кажуць людзі: „Трэба вучыцца да сьмерці“, і гэтую праўду сьцьвердзіла японка Лэй-Ханг-Су. Яна на 65 годзе свайго жыцьця запісалася ў школу і цяпер, пасьля сцьверджаньня вучыцялёў, зьяўляецца найпільнейшай і найлепшай вучаніцаю. А сталася гэта так: сын Лэй-Ханг-Су са слугою выехалі ў далёкую дарогу і калі прыслалі дамоў пісьмы, дык Лея-Ханг-Су мусіла хадзіць зімі да суседзяў, дзеля таго, што сама чытаць ня ўмела. Таксама, калі хацела адказаць на гэтыя пісьмы, дык мусіла шукаць помачы ў суседзяў. Прыкра было Лэй-Ханг-Су, што яна сама не магла пра ўсё шчыра адпісаць сваім найбліжэйшым. Дзеля гэтага зложыла яна заява да школы і з дазволу міністэрства прынялі яе, як вучаніцу. Праз пяць месяцаў Лэя-Ханг-Су навучылася чытаць і пісаць, дык цяпер яна ўжо сама піша доўгія сэрдэчныя пісьмы да сына. Навука так падабалася старой японцы, што яна пастанавіла прарабіць увесь матэр'ял народнае школы ў працягу трох гадоў.

# Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску.

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22